

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 31 (519) 1 ЖНІЎНЯ 2001 г.

## Правінцыя і моладзь памятаюць пра незалежнасць





29 ліпеня 2001 года каля магілы паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі Мохавічы і Малое Ольжава Лідскага раёна прайшла палявая імша, прымеркаваная да ўгодкаў прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

Першая імша тут была праведзена ў 1925 годзе. Тады ж быў устаноўлены дубовы крыж каля магілы. У 1995 годзе, праз 70 гадоў лідскай гарадской арганізацыяй БНФ тут былі пастаўлены два новыя крыжы. Першыя годы правядзення фэсту каля магіл паўстанцаў сустракала шматлікія перашкоды, але праз некалькі гадоў фэст стаў традыцыяй і, фактычна, ужо клопатам Белагрудскага ксендза і жыхароў Мохавіч ды Ольжава. Ад лідзян зараз залежыць узгадненне дня правядзення імшы.

Сёлета імша праходзіла ўжо ў шосты раз. Калгасны камбайн абжаў поле вакол крыжоў. Людзі скасілі траву. Імша прайшла сонечным летнім днём на беларуска-польскай мове. Белагрудскі ксёндз, этнічны паляк, сваю частку вёў папольску, а ўсё астатняе на добрай беларускай мове вялі клерыкі і паслушнікі. На беларускай мове гучалі і духоўныя песні ў выкананні змешанай групы манашак і белагрудскіх дзяўчат.

Шосты год запар людзі гэтых вёсак моляцца ў памяць палеглых за незалежнасць, моляцца пад белчырвона-белымі сцягамі. Людзі лідскіх вёсак слова "Незалежнасць" не забываюцца.

Калі б так ды ў кожнай вёсцы ды па ўсёй Беларусі, то не страшнымі былі б ніякая інтэграцыя, ніякая русіфікацыя, бо ў людзей з году ў год у сэрцах, у памяці адкладвалася б гэтае вечнае слова "Незалежнасць", адкладваліся б і сцягі, і мова, і звычка быць вольнымі.

І, гледзячы на гэтую купку людзей, якія моляцца за незалежнасць на шырокім полі, разумееш, які далёкі шлях ад гэтых дзвюх вёсак да цэлай Беларусі; і разумееш, што гэты шлях мы пройдзем, і пройдзем менавіта таму, што тут ён пачынаецца не мітынгам на камяніцы плошчы, а святой імшой на хлебным полі.

## МОЛАДЗЬ СПЯВАЛА І "ВЫБІРАЛА"

27 ліпеня, у 11-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, на менскай плошчы Бангалор прайшоў святочны канцэрт "Пабудуем Дом Наш – Беларусь".

Каля трох тысячаў маладых людзей, якія прыйшлі на канцэрт, слухалі, танцавалі і спявалі пад выступленні беларускіх гуртоў, сярод якіх былі N.R.M., Ulis, Zet, Крама, Зьніч, Сплэнэцік, Аналіз. Падчас чатырохгадзіннага музычнага марафону ўсе гледачы змаглі стаць удзельнікамі разнастайных конкурсаў, прызамі ў якіх былі касеты з беларускай музыкай.

Музычнае свята было прымеркавана да Дня незалежнасці, які адзначаўся ў нашай краіне афіцыйна да 1996 году, таму выступілі на ім некаторыя беларускія палітыкі. Павіншаваў моладзь старшыня Маладога Фронут Павел Севярынец, а ад прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Сямёна Домаша, які знаходзіцца ў замежнай паездцы, быў агучаны такі зварот: "Прывітанне ўсім прыхільнікам беларускага року! Беларусь будзе вольнай еўрапейскай краінай! Я перакананы: у Беларусі будуць створаны ўсе ўмовы для развіцця нашай беларускай музыкі. Прыйдзе час, калі нашыя гурты будуць займаць першыя месцы ў сусветных хіт-парадах. Толькі разам мы пабудуем Дом Наш – Беларусь! Толькі разам мы пераможам!"

Прыемнай нечаканасцю для ўсіх стаў выступ гурта "Крама", падчас якога яны заспявалі сваю новую песню – "Пабудуем дом наш Беларусь" на музыку вядомай песні гурта The Beatles. Песня была напісаная адмыслова да канцэрту.

Чакалася, што падчас канцэрту моладзь зможа выказацца ў падтрымку таго ці іншага прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта. Але літаральна за гадзіну да пачатку канцэрта своеасаблівыя "бюлетэні" для галасавання, у якіх былі прозвішчы А. Лукашэнкі, С. Домаша, С. Гайдукевіча і У. Ганчарыка, былі канфіскаваныя міліцыяй. У выніку пра свае палітычныя сімпатыі да С. Домаша ўдзельнікі канцэрту выказаліся ў вуснай форме.

*Прэс-група Сямёна ДОМАША.*

## КАНГРЭС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

29 ліпеня 2001 года ў Менску прайшоў Кангрэс беларускай моладзі, на якім прысутнічала каля 500 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны і ад большасці моладзевых арганізацый, плыняў, рухаў і г. д. Найбольш шматлікія дэлегацыі прыслалі Менск, Менская і Гарадзенская вобласці. У якасці гасцей прысутнічалі кіраўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый, грамадскія і палітычныя дзеячы, а таксама патэнцыйныя прэтэндэнты ў кандыдаты на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У. Ганчарык і С. Домаш.

Кангрэс дабразычліва прыняў сп. Ганчарыка, а на з'яўленне Сямёна Домаша зала наогул устала і вітала яго воклічамі: **"Домаш – наш прэзідэнт"**.

На кангрэсе выступілі: прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына" прафесар Анатоль Грыцкевіч, старшыня ТБМ Алег Трусаў, які заклікаў шырока выкарыстоўваць беларускую мову ў перадвыбарчай агітацыі, а таксама асудзіў замену спрадвечнай нацыянальнай Пагоні на экалагічна-бяззубага зубра ў моладзевых акцыях. Старшыня БНФ Вінцук Вячорка падтрымаў ідэю беларускасці ў моладзевых акцыях.

Да паўнаты малюнка трэба дадаць, што не абышлося без "пошуку міны" якраз перад выступам Сямёна Домаша. У выніку гэтага праца кангрэсу была на гадзіну перапынена.

## *Інфармацыйны ліст*

**Сп. Алегу Трусаву, старшыні ТБМ.**

Арганізацыйны камітэт Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў прыняў рашэнне аб правядзенні чарговага паседжання Кангрэсу 4 жніўня 2001 г. Мэта Кангрэсу – падтрымка адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Беларусі і мабілізацыя партыйных і грамадскіх структураў на правядзенне выбарчай кампаніі. Нагадваем, што квоты дэлегатаў ад Вашай арганізацыі застаюцца такімі ж, як на мінулым Кангрэсе. Спісы вылучаных дэлегатаў просім даслаць да 25 ліпеня 2001 г. у сакратарыят на адрас: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8, Управа БНФ.

Плануецца, што кожная арганізацыя, якая бярэ ўдзел у КДС, возьме на сябе абавязак кампенсаваць выдаткі на праезд сваіх дэлегатаў.

Просім Вас вылучыць сваіх прадстаўнікоў для працы ў рабочых органах КДС: сакратарыяце, рэдакцыйнай камісіі, мандатнай камісіі (па адным прадстаўніку).

*Старшыня аргкамітэту КДС Ю. Хадыка.*

"27" ліпеня 2001 г. № 420

*Сп. Юрасю Хадыку, старшыні аргкамітэту КДС*

**Шаноўны спадар Юрась!**

На Ваш інфармацыйны ліст аб правядзенні Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў 4 жніўня і ўдзеле ў ім дэлегатаў ТБМ паведамляем наступнае.

Ваш ліст быў абмеркаваны на пасяджэнні Сакратарыяту ТБМ 26 ліпеня 2001 года.

Паколькі мэта Кангрэсу – падтрымка адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Беларусі, кіраўніцтва ТБМ лічыць, што вылучэнне сп. Ганчарыка адзіным кандыдатам зроблена кулуарна і паспешліва без удзелу прадстаўнікоў шырокай беларускай грамадскасці (у тым ліку і прадстаўнікоў ТБМ).

Таксама ТБМ не мае сродкаў для аплаты сваіх дэлегатаў.

У сувязі з вышэйсказаным, прапануем перанесці дату Кангрэсу пасля рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзідэнты і запрасіць на яго, як сп. Домаша, так і сп. Ганчарыка.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.*

***Ад рэдакцыі. Як стала вядома Кангрэс дэмакратычных сілаў перанесены такі на 18-е жніўня, магчыма ў апошні раз. ТБМ атрымала квоту ў 40 месцаў.***

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# Хто як не мы?

Пераход да навучання на беларускай мове, я ўпэўнена, павінны пачынаць вышэйшыя навучальныя установы, дзе галоўнымі дысцыплінамі з'яўляюца філалогія, гісторыя, культура, таму што гэтыя сферы найбольш звязаны з моваю. Мяне як выкладчыцу англійскай мовы і навукоўцу па праблемах супастаўляльнага моваазнаўства радуе тое, што ў Менскім лінгвістычным універсітэце амаль усе студэнты (будучыя перакладчыкі і настаўнікі замежных моў) разумеюць неабходнасць вывучэння роднай мовы не толькі як абавязковага прадмета, але як і мовы камунікацыі і інтэркамунікацыі. Ужо некалькі гадоў мне даводзіцца прысутнічаць на абаронах дыпломных праектаў на ступень бакалаўра, а таксама на навуковых канферэнцыях па праблемах філалогіі, і хачу адзначыць, што даследаванні, праведзеныя на матэрыяле замежных моў у параўнанні з беларускай мовай, выклікаюць вялікую цікавасць і задавальненне ў дзяржаўнай камісіі, бо, па-першае, прысвечаны недаследаваным з'явам, а, па-другое, пацвярджаюць багацце беларускай мовы побач з такімі мовамі як ан-глійская, нямецкая, французская, турэцкая і г.д.

У гэтым годзе, напрыклад, было некалькі цікавых прац па праблемах перакладу і лексіграфіі. А матэрыялам для аналізу студэнты выбралі творы Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, паэзію рамантыкаў і т.п. Мова прэсы і рэкламы таксама цікавіць нашых выпускнікоў. Вера Кавалькова, напрыклад, распрацавала невялікі беларуска-англійскі слоўнік для перакладу статутных дакументаў; Гаравая Інга, наша маладая паэтка, зрабіла грунтоўны аналіз вершаў англійскіх рамантыкаў у арыгінале і ў перакладах, Бараноўскі Віталь разгледаў пытанне перадачы ірландскага нацыянальнага каларыту ў рамане Джэймса Джойса "Уліс". Было б вельмі добра, калі б можна было арганізаваць навуковую студэнцкую канферэнцыю на рэспубліканскім узроўні для тых, хто піша працы пра беларускае і па-беларуску. Гэта спрыяла б іміджу беларускай мовы, як мовы навукі, ды і студэнты паслухалі б адзін аднаго, набылі б досвед прамоўцы. Думаю, што па ініцыятыве ТБМ Міністэрства адукацыі магло б наладзіць такую патрэбную навуковую імпрэзу.

Вяртаючыся да спраў у МДЛУ, хачу паведаміць чытачам, што ў год моў (2001) былі праведзены конкурсы на лепшы пераклад, лепшае эсэ, лепшыя вершы (у тым ліку і на беларускай мове). Лепшае будзе надрукавана ў зборніку творчасці выкладчыкаў і студэнтаў МДЛУ, што выходзіць пад рэдакцыяй прарэктара па навуковай рабоце А. В. Зубава. Хваляўнічым момантам было і адкрыццё шыкоўнага цэнтра беларускай мовы і культуры. Цяпер трэба папаўняць запасы літаратуры. Хацелася б мець больш кніжак, якія выдаюцца на замежных мовах пра Беларусь. Крыху неяк зайздросна, калі іншыя ўстановы маюць, напрыклад, Histokical Dictionaky of Belarus (1998), Яна Запрудніка або пераклады беларускай паэзіі Веры Рыч і Уолтэра Мэя, а ў нашай бібліятэцы іх няма.

Праблемы ў "ініязе", як і ўсюды: мала беларускамоўных выкладчыкаў, мала навучальнай літаратуры па розных дысцыплінах. Слухаеш часам абарону дыплома па педагогіцы пра сістэму адукацыі ў ЗША і Беларусі ды чуеш рускую мову, а больш натуральна было б гаварыць і пісаць пра гэта па-англійску або па-беларуску. Праўда, каб напісаць дыплом па-беларуску, давядзецца перакладаць навуковую літаратуру з рускай, а гэта як бы яшчэ адзін дыплом (удвая больш працы і часу).

Ёсць у нас шмат выкладчыкаў і навукоўцаў, якія стараюцца зрабіць усё магчымае для развіцця беларускай мовы. Напрыклад, завяршаецца праца над беларуска-нямецкім і англійска-беларускім слоўнікамі (кіраўнікі М. У. Кур'янка, Т. М. Суша), выпускаюцца дапаможнікі, распрацоўваюцца курсы лекцый па беларусазнаўстве (Сяргей Новікаў), тэорыі перакладу (Вольга Калацкая).

Усю душу аддае беларускай справе старшыня суполкі выкладчыкаў МДЛУ Васіль Ермаловіч, ствараюцца новыя суполкі студэнтаў.

А тое, што моладзь імкнецца за мяжу, гэта таксама добра. Трэба пабачыць свет ды і паказаць сябе, павучыцца ды зарабіць грошы. Дарэчы, нашы студэнты карыстаюцца павагай за мяжою за працавітасць і шляхетнасць. Амерыканскія дзеці пішуць ім лісты і запрашэнні, каб зноў прыязджалі працаваць у летніках. І хоць ім трэба доўга тлумачыць, дзе знаходзіцца Беларусь, але ж пасля яны пра яе не забудуцца, бо беларускі хлопец або дзяўчына западзе ім у душу.

Веру ў моладзь Беларусі і веру ў тое, што калі самі станем багацейшымі, то ў іншыя краіны будзем ездзіць толькі ў госці або каб пазнаёміцца з іншай культурай.

Завяршаючы свой артыкул, яшчэ раз заклікаю філолагаў-выкладчыкаў і філолагаў-студэнтаў больш самім карыстацца роднаю моваю і несці беларускае слова іншым як у сваёй краіне так і замяжою. Бо хто, як не мы, спадары філолагі, дапаможа сваёй мове?

*Алена Таболіч, сябар ТБМ.*

# Аб беларускай мове

**Рэзалюцыя Трэцяга з'езду беларусаў свету, 5-6 ліпеня 2001 г., г. Менск**

Вытокі беларускай мовы, як і іншых еўрапейскіх моў, сягаюць у IX-X стагоддзі. У XIII-XVII ст. яна з'яўлялася дзяржаўнай мовай адной з самых вялікіх еўрапейскіх краінаў – Вялікага Княства Літоўскага, а таксама мовай міжнацыянальных і міждзяржаўных зносінаў на вялікіх абшарах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Нягледзячы на доўгачасовую паланізацыю і русіфікацыю, беларуская мова не знікла з моўнай мапы свету і канчаткова адрадзілася ў сваім сучасным варыянце ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Невыпадкова наш знакаміты суайчыннік Адам Міцкевіч называў беларускую мову адной з самых прыгожых і дасканалых славянскіх моваў.

У XX ст. беларуская мова перажыла некалькі перыядаў адноснага росквіту і заняпаду, выкліканых зменлівым лёсам гісторыі Беларусі. З 1991 па 1995 гады яна апошні раз была адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі і паступова ўваходзіла ў штодзённы ўжытак, а таксама ў сістэму нацыянальнай адукацыі і культуры.

Аднак пасля моўнага рэферэндуму 1995 года дзяржава не зрабіла прыкметных захадаў па рэалізацыі выказаных праз яго пажаданняў, галоўным з якіх з'яўлялася забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай моваў у афіцыйным жыцці. Сёння няма аніводнай сферы, у якой была б такая роўнасць. Службовае справаводства дзяржаўнага апарату практычна цалкам абслугоўваецца рускай мовай. Беларуская мова пазбаўлена сваёй канстутыцыйнай ролі ў заканадаўчай творчасці Рэспублікі Беларусь. Падобнае можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя навучальні. Вельмі незайздроснае становішча беларускай мовы на беларускім радыё і тэлебачанні і зусім цяжкае – у кінематографе. Ствараецца ўражанне, што дзяржава свядома не дапускае роднае слова тытульнай нацыі краіны ў афіцыйнае жыццё.

Апошні раз сваю нязломную волю да выжывання беларуская мова яскрава засведчыла падчас апошняга перапісу насельніцтва Беларусі ў 1999 годзе 86% насельніцтва Рэспублікі Беларусь назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37% жыхароў Беларусі афіцыйна засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску.

У сувязі з гэтым мы патрабуем ад уладаў Беларусі надання беларускай мове рэальнага статусу адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама адкрыцця ўжо ў гэтым годзе Беларускага Нацыянальнага універсітэта з выкладаннем усіх прадметаў навучання па-беларуску. Патрабуем распрацоўкі дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і штогадовых слуханняў па праблемах беларускай мовы ў дэмакратычна абраным парламенце.

Вядучае месца ў нашай дзейнасці павінна заняць культурна-асветніцкая праца ў шырокіх колах народу. Гэта стварэнне розных курсаў па вывучэнні беларускай мовы, збор сродкаў для выдання беларускамоўных кніг, газет, паштовак, календароў, вырабу аўдыё- і відэёпрадукцыі з беларускім гучаннем.

Мы звяртаемся да ўсіх удзельнікаў сёлетней прэзідэнцкай кампаніі з настойлівай просьбаю шырока карыстацца беларускай мовай падчас яе правядзення. Без беларускай мовы існаванне незалежнай Беларусі, як дэмакратычнай, еўрапейскій краіны, немагчымае.

# "ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, ПАНОВЕ?"

Зусім нядаўна ў Слоніме на вуліцы Брэсцкая з'явіўся новы праваслаўны прыход, навіна аб якім хутка абляцела горад. Незвычайнасцю ва ўсёй гэтай справе было тое, што прыход адразу набыў рысы беларускай супольнасці. Яго заснавальнік і настаяцель айцец Іаан Майсейчык актывізаваў дзейнасць грамады ў напрамку стварэння вучэльні для дзяцей і моладзі, адраджэння беларускай спадчыны і пашырэння беларушчыны сярод вернікаў.

Пропаведзь і духоўныя настаўленні ў прыходзе можна было пачуць амаль выключна па-беларуску, што абвяргала няслушнае сцвярджэнне, быццам беларуская мова непрыдатная для ўзвышаных рэчаў. Менавіта вышыня і прыгажосць слова, ахвярная адданасць справе і шчырая дабрыня атмасферы прыцягнулі ў новую царкву мноства інтэлігенцыі, што дало ёй назву "Настаўніцкай".

Горад узбагаціўся нядзельнай школкай і сястрынствам міласэрнасці. На прыход звярнула ўвагу Беларускае Моладзевае Брацтва: падчас паломніцтва па Заходняй Беларусі. Вялікая група моладзі малілася тут за беларускі народ, дзялілася радасцю жыцця ў веры, досведам і праблемамі беларускай рэчаіснасці. Прыход распаўсюдзіў сваю апеку над кадэцкімі класамі СШ № 9, а таксама над хворымі і сіротамі, дзякуючы чаму па праву стаў прытулкам для старых і маладых, хворых і здаровых, шчаслівых і нешчаслівых…

І можна было б радавацца і карыстаць з таго, што нашы гараджане атрымалі магчымасць не толькі спасцігаць таямніцы Божыя, але вяртацца да сваіх каранёў, піць жыватворную вільгаць з крыніцы айчыннай гісторыі, прывучацца шанаваць свой край і матчыну мову, але… Аказалася, што гэта радасць не для ўсіх.

Аднойчы дзверы царквы адчыніліся, і ва ўтульную богаслужбовую залу ўвайшоў новы настаяцель айцец У. Камароў. Пагаспадарску ён ададраў са сцяны словы песняра Беларусі Я. Купалы:

***Чаго вам хочацца, панове?***
***Які вас выклікаў прымус***
***Забіць трывогу аб той мове,***
***Якой азваўся Беларус?***
***Чаму вам дзіка яго мова?***
***Паверце, вашай ён не ўкраў,***
***А толькі ўспомніў***
***сваё слова,***
***З якім радзіўся, падрастаў.***

"Не положено", – коратка адрэзаў ён.

Далей пачалася прамыўка мазгоў, накшталт таго, што беларуская мова вядзе да расколу, што Беларусь – неаддзельная частка Расіі, што асноўная частка насельніцтва – рускія і таму не разумеюць (!) беларускай мовы, а Я. Купала – "Вообще неизвестно кто".

На айца Іаана паліліся рэкі бруду, як на "неблаганадзейнага". Стала зразумелым, што беларускасць, незалежніцкая пазіцыя дзяржаўнага ладу, прыродная беларуская талерантнасць, гістарычная і літаратурная спадчына беларускага народа з'яўляюцца "прыліпаламі" у царкоўным асяроддзі. Русіфікацыя і палітычныя (прыкрытыя ворсам духоўнасці) інтрыгі на карысць брацкай Расіі – гэта адна з галоўных мэтаў дзейнасці Рускай царквы. У выніку прыход быў пазбаўлены свайго настаяцеля (Іаана саслалі ў Шылавічы). А вернікі, расцярушаныя такім прыніжэннем, што ім цяжка ўявіць пра "царкоўны" характар гэтых падзей. Але на гэтым не ўсё.

Раз'юшаны "непакорствам" епіскап Гурый, а таксама яго "вернападданы" ***блага***чынны айцец Уладзімір Бобчык (Альбярцінская царква) развязалі страшэнны пераслед Іаана і яго бліжэйшага акружэння.

Сябра сям'і айцец Аляксандр Явараўскі быў выкліканы да епіскапа Гурыя, які сваім благаславеннем проста забараніў мець усялякія адносіны з айцом Іаанам, як езуітам, бэнээфаўцам і г.д.

Паколькі сумленне айца Аляксандра не дазволіла яму паступіцца дружбай, то гэта выклікала са свайго боку ўціск на яго. Пачалася санкцыянаваная зверху "карэспандэнцыя" паклёпаў і распаўсюджанне чутак пра недобрасумленнасць айца Іаана і айца Аляксандра. Свайго апагея "кантроль за думамі" дасягнуў, калі айцец Уладзімір Бобчык пахваліўся сваімі сувязямі з КДБ і … праслухоўваннем кватэры.

Р'яны епіскап Гурый забыўся пра свой службовы стан, ні аднаго разу не прыняў былых прыхаджанаў, якія сэрцам і душой сталі на пошук справядлівасці. Ліст ад вернікаў, у якім праўдзіва распавядалася пра падзеі, ён назваў "оскорбительным". Хіба можа праўда быць зневажальнай? Ці на хлусні і несправядлівасці дасягаюць царкоўных пасадаў?

Балюча казаць, што ў наш і без таго гаротны час, калі ашуканства апанавала амаль увесь свет, месца святое – Царква – апаганьваецца той жа няпраўдай. Пераслед, знявага, нецярпімасць, паклёпы і маральны ўціск – ці ж гэта тое, чым дыхае дух Божы, што жыве ў Царкве?..

Між тым усё гэта прымусіла айцоў Іаана і Аляксандра прасіць аб звальненні іх з прыходаў. Просьбы паспешліва былі задаволены. Амбіцыі епіскапа Гурыя і яго ***блага***чыннага, якія крывадушна прапаведуюць дараванне крыўдаў і любоў да ворагаў, рэалізаваліся.

Боль застаўся ў сэрцах шматлікіх вернікаў, якія не ў стане зразумець, як стала магчымым, што два адданыя Богу і людзям святары, поўныя маладосці, адукацыі і розуму, сталі ненавіснымі духоўным правадырам нашага народу. Як гэта нагадвае евангельскую гісторыю, калі фарысеі і кніжнікі з-за ганарыстасці страцілі духоўныя магчымасці адрозніваць дабро і зло і давялі яўрэйскі люд да адвяржэння Хрыста. Падобна на тое, што зло перамагло і тады, і цяпер.

Дакуль жа нам, беларусам, цярпець уладу хітрых баязліўцаў і верыць іх мудрагелістым заклікам адраджаць Расію, забываючыся пра свой край? Дакуль моўчкі будзем назіраць, як здзекуюцца і выганяюць беларускіх сыноў, неабыякавых да лёсу мінуўшчыны і будучыні Беларусі?

*Марыя Баброўская,*
*"Газета Слонімская".*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА І СВЕТ

## Дэкларацыя Трэцяга з'езду беларусаў свету 5-6 ліпеня 2001 г., г. Менск

Зыходзячы з гістарычнага досведу аб фармаванні і развіцці дыяспар, іх сучасным стане і ролі, Трэці з'езд беларусаў свету лічыць неабходным выказаць сваё прынцыповае стаўленне да дыяспар.

Найпершае і галоўнае: дыяспары ёсць сацыяльны феномен, унікальны структурны элемент у комплеке грамадскіх утварэнняў сучасных краін.

На цяперашнім этапе развіцця цывілізацыі дыяспары зусім не знікаюць, а наадварот – выяўляюць выразную тэндэнцыю на ўмацаванне, бо ў свеце адбываецца ўсталяванне прынцыпу свабоднага перамяшчэння працоўнай сілы, што лічыцца праваой катэгорыяй стандартных міжнародных дачыненняў, замацаваных у рэзалюцыях і канвенцыях ААН, нацыянальных заканадаўствах.

На ўзроўні палітычнай тэорыі і практыкі ўсё больш узрастае разуменне каштоўнасці поліэтнічнасці і полікультурнасці сучасных дзяржаў. Штучныя ўніфікацыя і асіміляцыя саступаюць месца ўсвядомленай грамадскай і ўрадавай абароне правоў нацыянальных дыяспар і меншасцяў, што знаходзіць праўнае адлюстраванне ў міжнародных актах, міжурадавых пагадненнях і ўнутраным заканадаўстве.

У практычным і функцыянальным плане дыяспары выступаюць, як сацыяльная аснова шматузроўневых міжнародных дачыненняў (эканамічных, інфармацыйных, культурных), незаменны тэхналагічны і тэхнічны інструмент міжнародных стасункаў. Пазітыўная, стваральная роля дыяспар і нацыянальных меншасцяў у сучасным свеце нязменна ўзрастае, функцыянальна выкрышталізоўваецца, іх статус у дэмакратычных грамадствах павялічваецца.

З улікам імклівага пашырэння шматузроўневых міжнародных кантактаў акрэсленыя гістарычна перспектыўныя тэндэнцыі на сучасным этапе яшчэ больш узмацняюцца: дыяспары колькасна павялічваюцца, якасна трансфармуюцца. Працэс іх штучнага разбурэння прыпыняецца, што справядліва з гуманістычных меркаванняў і вельмі выгадна ў эканамічным плане, асабліва дзеля развіцця міжнароднага гандлю, інвестыцыйных працэсаў.

Агульнацывілізаваны і практычна-функцыянальны сэнс дыяспар і нацыянальных меншасцяў актуалізуецца, у звязку з чым вельмі надзённай становіцца праблема іх канцэптуальна выверанага і ўсебаковага развіцця, сістэмай – інстытуцыянальнай, праваой і фінасавай падтрымкі.

Беларуская дыяспара як неад'емная частка сучаснай нацыі – велізарны нацыянальны рэсурс, які пры сістэмным і ўзважаным дзяржаўным падыходзе ператвараецца ў найважнейшы фактар імклівага эканамічнага і духоўнага ўздыму Беларусі, забяспечвае рост міжнароднага аўтарытэту, прэстыж нашай краіны ў свеце.

Беларусы замежжа – прыярытэтная складовая, базавы кампанент у справе наладжвання эфектыўных міжнародных і міждзяржаўных адносінаў. Вельмі значны патэнцыял эміграцыі ў гаспадарча-эканамічных сферах, такіх як знешнегандлёвая дзейнасць, развіццё экспарту беларускай прадукцыі, передачы ў Беларусь новых тэхналогій (вытворчых, адукацыйных, інфармацыйных), ноў-хаў.

Беларусы, што стала жывуць у вольным свеце, - вонкавая перадумова станаўлення ў Беларусі дэмакратычных інстытутаў, усталяванне законнасці і прававых дачыненняў ва ўсіх сферах.

Заклікаем Урады іншых краін, міжурадавыя арганізацыі, дабрачынныя фонды аказваць арганізацыйную, інфармацыйную і фінансавую дапамогу беларускім дэмакратычным, незалежніцкім структурам, вольным СМІ, культурніцкім грамадскім ініцыятывам і гуманітарным арганізацыям на Бацькаўшчыне і ў замежжы з тым, каб дапамагчы нацыі пераадолець наступствы Чарнобыльскай аварыі, паскорыць вяртанне краіны на шлях законнасці, паспрыяць кансалідацыі грамадства, гальванізаваць працэсы фармавання грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

# АБ АСНОЎХНЫХ ПРЫЯРЫТЭТАХ МГА "ЗБС" "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## Рэзалюцыя Трэцяга з'езду беларусаў свету 5-6 ліпеня 2001 г., г. Менск

Удзельнікі Трэцяга з'езду беларусаў свету, які адбыўся ў Менску на мяжы тысячагоддзяў 5-6 ліпеня 2001 г., падсумоўваюць вынікі сваіх нарадаў наступнай рэзалюцыяй:

1.Беларускі народ, беларускае шматнацыянальнае грамадства, мае неад'емнае прыроднае права жыць у сваёй дэмакратычнай, суверэннай і незалежнай дзяржаве. Грунтуючыся на гэтым пастулаце, Міжнародная грамадская арганізацыя "Згуртаванне беларусаў "Бацькаўшчына" будзе далей працягваць і пашыраць сваю дзейнасць, скіраваную на ажыццяўленне асноўных статутных мэтаў: адраджэнне Беларусі як суверэннай дзяржавы, кансалідацыя беларусаў як нацыі і фізічнае захаванне беларускага народу.

2. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае беларусаў свету спрыяць замацаванню беларускай дзяржаўнасці праз спрыянне выхаду Беларусі як паўнапраўнага суверэна на міжнародныя двухбаковыя і шматбаковыя кантакты. ЗБС "Бацькаўшчына" выказваецца за ўсебаковыя міжнародныя сувязі беларускай дзяржавы, а таксама за цеснае супрацоўніцтва на парытэтных асновах з усімі блізкімі суседзямі Беларусі. Каб такім супрацоўніцтвам узаемна пашыраць дабрабыт народаў і мацаваць стабільнасць рэгіёнаў.

3. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае ўсіх грамадзянаў Беларусі цаніць здабытую дзяржаўнасць, бо толькі праз сваю дзяржаву, калі яна сапраўды дэмакратычная, ды сваімі ўласнымі разняволенымі сіламі можа наладзіць годнае жыццё для сябе і сваіх нашчадкаў. На сённяшнім этапе стаўлення дзяржаўнасці, пры паслабленым у выніку русіфікацыі стане нацыянальнай свядомасці, стварэнне якіх бы там ні было саюзных дзяржаваў прывядзе толькі да знішчэння беларускай дзяржаўнасці.

4. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" будзе рабіць усё магчымае, каб у Беларусі пашыралася і паглыблялася нацыянальная свядомасць, разуменне важнасці сваёй дзяржаўнасці, бо, як паказвае гісторыя народаў, нацыянальная годнасць – гэта магутны псіхалагічны фактар, які трывала ўплывае на падвышэнне маралі і працаздольнасці народу.

5. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" надае вялікае значэнне вяртанню беларускай мове яе дзяржаўнай функцыі, паколькі беларуская мова – скарбніца багатай шматвекавой спадчыны народу і арганічная аснова ягонага далейшага культурнага і духоўнага развіцця.

6. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да афіцыйных чыноўнікаў усіх узроўняў з просьбай падтрымаць працу Згуртавання ўсімі магчымымі матэрыяльнымі сродкамі і прававой дапамогай.

7. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца з заклікам да суродзічаў, расселеных у дыяспары, трымаць лучнасць з краінай свайго паходжання, наладжваць з ёй культурныя сувязі і эканамічнае супрацоўніцтва, дапамагаць у пераадоленні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы і эканамічных цяжкасцяў.

8. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае беларускую моладзь і студэнцтва працягваць дзяржаватворчую справу дзядоў і бацькоў, якія дамагліся аднаўлення беларускай дзяржаўнасці коштам ахвяраў жыцця, крыві і працы ды гэтым маральна забавязалі нашчадкаў зберагчы і замацаваць іхняе дасягненне.

9. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" бачыць, пры захаванні падыходу да справаў на аснове вышэй выказаных ідэяў і пастулатаў, магчымасці выхаду Беларусі з сучаснай ізаляцыі і эканамічнага крызісу. Такі выхад ляжыць не толькі ў інтарэсах беларускага грамадства, але ўсіх дэмакратычных краінаў свету.

## Шаноўнаму чалавеку да шаноўнага юбілею. Нашай спадарыні Волі.

Спадарыня Воля Рак – нашчадак старажытнага беларускага шляхетнага роду. Роду нязменных, з пакаленьня ў пакаленне, адданых патрыётаў Радзімы, якія, ў свой час, прымалі самы актыўны удзел у вызвольным паўстанні Т. Касцюшкі.

Спадарыня Воля наша самая шаноўная сяброўка Беларускага адраджэння, нязменная, нягледзячы на шаноўны узрост, удзельніца ўсіх, менавіта ўсіх, акцыяў дэмакратычнага руху з самага першага дня нашага абуджэння і змагання. Столькі, колькі робіць для нашай святой справы спадарыня Воля, дай Бог маладым і энэргічным.

А яе цудоўная, мілагучная, чыстая беларуская мова – прыклад нам усім.

Мы ўпэўнены, спадарыня Воля, што вашыя продкі – патрыёты адтуль глядзяць на Вас, бачаць вас і на поўнай падставе ганарацца Вамі.

Прыміце ж нашы самыя шчырыя зычанні, глыбокае шанаванне і ўдзячнасць. І пакуль жывуць такія патрыёты Радзімы, як вы – жыве Беларусь.

А патрыёты жывуць – вечна.

ШАНУЙ ВАС БОГ!

*Рада БНФ ім. Т. Касцюшкі;*
*Рада ТБМ Кастрычніцкага р-на г. Менска.*

## Паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова"

У газеце № 23 (511) 6 чэрвеня 2001 г. добрыя артыкулы як сп. Ніла Гілевіча і сп. Васіля Быкава. Я бачу што газета ідзе ў абарону беларускай мовы. Мяне падбадзёрыла што пісьменнікі Беларусі сказалі сваё слова, бо сапраўды задоўга цягнецца напад на беларускасць. У сп. Алега Трусава ёсць цікавыя артыкулы у газеце "Наша слова". Я чытаў газету "Голас Радзімы" 11 красавіка 2001 г., дзе зазначана ў Менску 230 школ і толькі 5 беларускамоўных, гэта ў сталіцы Беларусі такі малы лік школ беларускамоўных, гэта грэх і смех. Што ж трэба чакаць да верасня можа выбяруць урадаўцаў якія будуць дбаць і шанаваць мову і народ беларускі, і будзе адна мова дзяржаўная на Беларусі, мова карэннага народу -- беларуская мова.

Беларусь мае сваю беларускую мову і гэтая мова мусіць быць дзяржаўнай мовай. Ніякае двюхмоўе не заменіць наш скарб які захоўваецца праз стагоддзі. Наша мова як стане дзяржаўнай, тады народ стане ганарыцца сваёй мовай, і яна будзе развівацца, як і ўсе мовы Еўропы. Гадамі жыхары Беларусі былі пакрыўджанымі ад акупантаў, бо толькі яны сябе і сваю мову павышалі і рабілі яе ўрадавай. Цяпер час надышоў, каб беларусы маглі з гонарам і пашанай гаварыць, вучыцца і ўрадава ўжываць беларускую мову.

Як беларусы навучыліся пісаць, размаўляць і чытаць на расейскай мове, гэтак сама можна навучыцца і беларускай мовы, можа яшчэ будзе намнога лягчэй, як для вымовы, так і для размовы, асабліва жыхарам Беларусі.

К. Верабей,
Чэрвень 20. 2001 г.
Фармінгдэл, Н. Ё. ЗША.



Пастаянна дзейныя выставы дзіцячых мастацкіх работаў праходзяць у Леановіцкім сельскім Доме культуры Дзятлаўскага раёна, дзе дырэктарам Аляксандра Ўладзіміраўна Шалеская (на здымку). Яна сама вядзе мастацкі гуртк, усяляк прапагандуе творчасць сваіх вучняў.
**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







*5 - 6 ліпеня ў Менску прайшоў Трэці з'езд беларусаў свету*

# Дыялог з Купалам

Беларусы свету зноў завіталі на сваю Бацькаўшчыну... Што яны прывезлі ў сваіх душах? Што яны хацелі ўбачыць на роднай зямлі? Ці парадаваў іх родны край? "Зямля бацькоў, зямля святая"... Кожнага прыезджага беларуса яна перапоўніла, затапіла пачуццямі. Глядзелі на іх і адчувалі, як яны, маўклівыя і ўсмешлівыя, ашчадна неслі сваю перапоўненую чашу пачуццяў. Лішні крок, лішні рух, лішняе слова – і чаша пральецца. А яе так хочацца зберагчы, на гады, на дзесяцігоддзі, давезці поўненькую ў тую краіну, дзе судзіў лёс векаваць.

З 25 краін свету прыехалі нашы суайчыннікі на этнічную Бацькаўшчыну. Праграма працы на III з'ездзе беларусаў была вельмі напружанай. Усё было разлічана ледзь не па хвілінах. І ўсё ж беларусы-эмігранты завіталі да Купалы, каб пакланіцца нізка паэту-прароку, падзяліцца з ім самым дарагім, самым набалелым, самым важным... Зверыць думкі, пачуцці, перакананні свае з паэзіяй Купалы.

Кожнае выступленне было споведдзю, душы перад паэтам, перад роднай зямлёй. І кожны зразумеў, што беларусы-эмігранты адрозніваюцца ад тых беларусаў, якія маюць шчасце жыць на Радзіме. У словах-споведзі эмігрантаў адчуваўся амаль фізічны боль ад недахопу Бацькаўшчыны, ад адасобленасці ад сапраўднай культуры, ад здаровага нармальнага грамадства і духоўнасці і ад нястачы нацыянальнай эліты... Можа таму беларусы-эмігранты заўсёды вылучаюцца надзвычайнай адухоўленасцю, якая, мусіць, нараджаецца летуценнямі-марамі, вялікімі імкненнямі да родных мясцін, верай у сустрэчу з самым дарагім і блізкім... Гэта на адлегласці, мабыць, далучае да Радзімы.

Амаль кожны з выступоўцаў-эмігрантаў чытаў вершы. Відавочна паэзія з'яўляецца лекавым бальзамам для душы, здольна хоць на хвіліны знішчыць адлегласці, вярнуць на Бацькаўшчыну, перанесці ў родную хаціну, у дзяцінства... Менавіта такую думку выказаў яшчэ раней паэт-эмігрант Майсей Сяднёў у вершы "Да чытача":

***Я накіп сэрца песняю лячу,***
***Яна бальзамам для яго, няйначай.***
***Сярод імклівай радасці, мой чытачу,***
***Няўцешны плач душы і смутак можа***
***Мне прабачыць.***

Пацверджаннем гэтых словаў было выступленне таксама паэта-эмігранта Янкі Запрудніка, які зазначыў, што далёка ад роднай зямлі верш ратуе душу, бо душы не стае Бацькаўшчыны. На чыжыне блізкім, родным, сваяком становіцца кожны беларус. А ўся істота рвецца на Радзіму, бо тут сваяцтва пашыраецца на ўсіх жыхароў Беларусі.

Пасля такіх выказванняў робіцца зразумелым, чаму так хваравіта ўспрымаюцца ўсе праблемы краіны на адлегласці беларусамі-эмігрантамі.

Глыбока кранальным і запамінальным было выступленне беларуса з Навасібірска Альберта Міты. Трагічны лёс напаткаў яго сям'ю, якая не па сваёй волі вымушана была развітацца з Радзімай. І можа таму малапісьменная маці паэта ўсё жыццё думала над праблемай, чаму такі нешчаслівы лёс беларусаў? З гадамі яна прыйшла да глыбока-філасофскай высновы: цяжкае жыццё паспрыяла таму, што беларусы згубілі веру ў сябе, а каб яе знайсці, народ мусіць прайсці праз пакуты. Пазней Альберт Міта з гэтай думкай сутыкнуўся, чытаючы творы Янкі Купалы. У прыватнасці, у вершы "Крыжы" (1908) Янкі Купалы прадстае спакутаваны край, спакутаваны беларус:

*Доляй мучаны паганай,*
*След слязой пачнеш крывавіць;*
*Крыжам ляжаш распластаны,*
*На сваім абы паставіць.*

*Крыжам ляжаш за парогам*
*У той царкве, дзе храсціўся,*
*Крыжам ляжаш перад богам,*
*Каб цябе ён не забыўся.*

*Так жыцця крыж мусіш несці,*
*Як дзяды твае насілі,*
*А як данясеш да смерці, -*
*Крыж паставяць на магіле.*

Сумна, але ўкрыжаваны беларус – гэта вельмі ёмкі вобраз Купалы, гэта сімвал, які сваім значэннем выходзіць да вельмі шырокіх абагульненняў – пераасэнсаванне духоўных каштоўнасцяў усяго народа, нацыі, усёй зямлі беларускай. Менавіта так зразумеў гэтыя радкі Купалы беларус-эмігрант Альберт Міта і напісаў сам верш пра "ўкрыжаваную Беларусь" і напісаў чамусьці на трох мовах: рускай, польскай і беларускай.

Зразумела, што найгалоўнейшым пажаданнем яго было, каб Беларусь стала Беларуссю, а народ каб усвядоміў сябе нацыяй з гістарычнай місіяй, каб варты быў сваёй старажытнай мовы, культуры, сваёй спадчыны, сваіх паэтаў, бо гэта страшна, нават трагічна, калі народ не шануе, не прызнае свайго паэта, калі народ цураецца слова, з якім да яго звяртаецца паэт, святар...

Прадаўжэннем гэтага выступлення былі глыбокадумныя словы вучонага і паэта Аляксея Каўкі пра "волата духу народнага" Янку Купалу. Аляксей Каўка зараз жыве і працуе ў Маскве. На адлегласці ўсё бачыцца больш выразна, больш маштабна, таму і думкі нараджаюцца глабальныя. Выдатны вучоны і чалавек з вялікім жыццёвым досведам жыве клопатам агульначалавечым: вялікім жаданнем для свету духоўнага ўзвышанага міру, гармоніі, прыгажосці, а свайму народу пажадаў знайсці волю жыць годна, быць вартым славутых продкаў, быць вартым вялікага Купалы. І загучалі вершы песняра на беларускай і рускай мовах з вуснаў вучонага паэта:

***Вы ў ланцугі ўсё закавалі:***
***І суд, і праўду і закон!***
***Расправу правам вы назвалі,***
***А ласкай – пахавальны звон,***

***Вы задушылі дух народны,***
***Да слёз мільёны давялі,***
***Збылі з жыцця вам непрыгодных,***
***Зглушылі кліч – "волі, зямлі"***

***Не ўмруць ніколі грозны клікі***
***На сонца захад і на ўсход:***
***Тут спіць ваяк, ваяк вялікі***
***За волю, долю і народ.***
(Я.Купала, **"Перад вісельняй"**, 1908 г.)

У многіх выступоўцаў-эмігрантаў гучала думка, што далёка ад Радзімы яны жывуць і трываюць дзеля Беларусі. Беларусы з Пецярбурга, узгадаўшы верш Купалы "Родныя песні", зазначылі, што ім бы "на чужыне плакаць трэба, а яны пяюць пацїху, не разгульна", бо ў родных песнях, як сцвярджаў Купала, "адаб'ецца нядоля і доля, // Ўздыханні, што ходзяць з касою, з сякерай, // І холад і голад, няволя і воля, // І ўбудучнасць ясну надзея і вера, // У песнях жа родны край, родныя словы // Жылі, і жывуць, і жыць будуць заўсёды". Вось чаму беларуская песня здольна сагрэць душу беларуса-эмігранта на чужыне, бо гэта ёсць своеасаблівая малітва тых, хто смутжуе па Радзіме.

Усе гэтыя думкі беларусаў-эмігрантаў знайшлі водгук у сэрцах суайчыннікаў. Яны сугучны былі думкам, меркаванням і перажыванням беларускіх пісьменнікаў, якім пашчасціла жыць на Бацькаўшчыне. І як зазначыла Вольга Іпатава, пісьменнікі на Радзіме робяць вельмі многа, каб вярнуць свой народ да памяці, да сваіх каранёў і вытокаў, да яго трагічнай гісторыі. Менавіта таму, сцвярджала старшыня саюза пісьменнікаў Беларусі, многія паэты ў гэты складаны час нясуць нялёгкія абавязкі рэдактараў, дзякуючы чаму ёсць у беларусаў змястоўныя часопісы і газеты. Пісьменнікі шмат робяць у абарону сваёй мовы, а гістарычная тэма стала вядучай у беларускай літаратуры. Сама Вольга Міхайлаўна шмат аддае ўвагі аднаўленню канкрэтных гістарычных падзей і ў празаічных творах, і ў вершаваных. У прыватнасці, дзякуючы яе творам стала шырока вядомай трагічная біяграфічная падрабязнасць з жыцця Прадславы-Ефрасінні Полацкай і полацкіх князёў.

Доўгі час у падручніках гісторыі можна было прачытаць, што Ефрасіння Полацкая прыняла манаства, бо не хацела выходзіць замуж, а імкнулася да навукі, да ведаў. Аднак дакументы, адшуканыя гісторыкам Міколам Ермаловічам, сведчаць пра іншае. Аказваецца, што захаваліся багацейшыя матэрыялы пра Ефрасінню Полацкую – першую з кананізаваных жанчын усходнеславянскіх земляў. Літаратура, дзе расказваецца пра жыццё-подзвіг святой Ефрасінні, налічвае каля 150 назваў. Звесткі гэтыя маюцца практычна ва ўсіх еўрапейскіх мовах: на царкоўнаславянскай, на беларускай, лацінскай, польскай, украінскай, нямецкай, расейскай, ангельскай...

Уважлівае прачытанне ўсіх шасці рэдакцый "Жыція Ефрасінні Полацкай" адкрывае таямніцу – трагедыю: у 1129 г. (ці ў 1128 г.) кіеўскі князь Мсціслаў загадаў полацкім князям выступіць супраць качэўнікаў полаўцаў. Полацкія князі адмовіліся, бо гэта дало б маральнае права тым жа качэўнікам нападаць, рабаваць, паліць і нішчыць Полацкае княства.

За адмову ісці супраць полаўцаў полацкія князі былі жорстка пакараны Кіевам. Кіеўскі князь Мсціслаў выслаў іх у Візантыю. У спісу выгнаннікаў летапіс зафіксаваў і імя Прадславы-Ефрасінні Полацкай, і яе бацькоў, і сястры Гардзіславы. Чаму ў Візантыю выслалі? Можа таму, што дынастыя Рагвалодавічаў мела блізкае сваяцтва з візантыйскімі імператарамі Комнінамі. Але полацкія князі ўсё роўна вымушаны былі ваяваць з сарацынамі ці арабамі. У выніку яны амаль усе і загінулі. На Радзіму вярнуліся толькі двое: Васіль і Іван.

Дык вось, каб не пакінуць сваю зямлю, сваю краіну, 12-гадовая Прадслава вырашае прыняць пострыг у манахіні, стаць "Хрыстовай нявестай", але не перарваць нітачку сувязі з родным краем. А гэта была тая повязь, дзякуючы якой назад, на Полаччыну, вярнуліся сёстры Прадславы, вярнуліся і двое ацалелых мужчын з роду Рагвалодавічаў.

Вольга Іпатава таленавіта і нешматслоўна ўвасобіла гэтую трагічную гісторыю ў радках верша. А наказ бацькоў Прадславе: ***"Полацк беражы!"*** – душу пераварочвае, бо гэта наказ і ўсім нам, беларусам: ***"Зберажыце Беларусь!"***

Перад помнікам народнаму песняру паэтэса вырашыла прачытаць менавіта такога зместу твор, бо ён вельмі сугучны з радкамі Янкі Купалы з паэмы "На куццю!:

***Багі другія верх бяруць,***
***Суды вядуць над нашым краем,***
***Свяцільні ж нашы не замруць,***
***Што ў сэрцах вольных рассвятляем.***

Ад Купалы ішоў і Анатоль Вярцінскі:

***Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,***
***Узрос з зямлі й чужых з яе не скінуў косці,***
***Грудзьмі тулюся к ёй,***
***як да матчыных грудзей.***
***І калі здзекавецца нада мною хтосьці –***
***Над Бацькаўшчынай здзекаваецца ён маёй,***
***Калі ж над ёй –***
***мяне тым крыўдзіць найцяжэй.***

Гэтыя радкі з санета Янкі Купалы "Бацькаўшчына" натхнілі Анатоля Вярцінскага, сталі эпіграфам да новага цыкла яго вершаў, якімі ён сцвердзіў думку, што найбольшы гонар кожнага грамадзяніна сёння быць рыцарам, заступнікам, абаронцам Маці, Жанчыны, Радзімы.

І як бы працягам гэтай думкі было выступленне паэта і галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Сяргея Законнікава. Ён прачытаў верш-роздум і выказаў сумненне, ці хопіць жыцця чалавечага, каб сплаціць доўг роднай зямельцы, каб замаліць грахі, свае і чужыя...

Купалаўскую "Малітву" нагадваў агучаны верш Ніны Загорскай – паэтэсы і жанчыны з вельмі непростым жыццёвым шляхам. Багаты жыццёвы досвед паэткі выказаны быў перад прысутнымі вельмі лаканічна "быць людзьмі", "мецъ Бога ў сэрцы", бо "жыццё – малітва небу і зямлі, міг бясcмерця, што кожнаму далі". А таму кожны павінен яго скарыстаць, не пусціць на марна.

Дыялог ля падножжа Купалы быў вельмі патрэбны ўсім тым, хто прыйшоў у ліпеньскую раніцу ў непагоўтарна прыгожую мясціну нашай сталіцы – парк імя Янкі Купалы. У дыялогу з Купалам людзі за кароткі час перажылі дзесяцігоддзі і стагоддзі гісторыі свайго краю, асэнсавалі наша няпростае сёння, зазірнулі і ў будучыню. Бо вельмі ўжо хвалюе беларусаў праблема нацыянальнай мовы, праблема суверэнітэту Беларусі, страта якіх абяцае абярнуцца знікненнем усяго народа. Вось чаму ля помніка песняру зноў узнята была праблема, як і на з'ездзе, ці трэба сёння беларусу быць мяккім і памяркоўным, бо часам гэтымі добрымі якасцямі бессаромна карыстаюцца больш нахабныя. Можа сёння беларусу трэба быць больш зацятым у вырашэнні сваіх праблем...

І як тут зноў было не ўспомніць радкі з верша Янкі Купалы "Перад будучыняй" (1922 г.):

***Стаім мы перад будучыняй нашай***
***І ўсё варожым, сочым ейны ход...***
***Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,***
***Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...***

***Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім***
***Пад маскай, асляпляючаю нас,***
***І што сказаць самім сабе і людзям,***
***Не ведаем, не можам, хоць і час!***

***Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы***
***Таго свайго, што наша ад вякоў.***

А яшчэ гэтая сустрэча ўсё-такі нарадзіла аптымізм

Прыемна здзівіла ўсіх выступленне 16-гадовай паэткі Валерыі Кустаўай, якая першыя свае вершы напісала ў 6 гадоў, а ў 16 – мае ўжо два зборнікі. Скончыла толькі 10 клас звычайнай Менскай школы, а якія мудрыя думкі прагучалі ў прачытаных ёю вершах:

***Перад намі стаяць умовы:***
***Маўчаць ці пазбавіцца мовы...***

***Застанемся мы толькі крэсамі,***
***Усходняй часткай, плошчай, адрэзкам.***
***Будзем уступам ці інтэрмедыяй,***
***І ніколі не станем сэнсам...***

***Не дазволю застацца ўчасткам!***
***Годны заклік – трывалы, рэзкі.***
***Сабяру мой народ па частках,***
***Па фрагментах сафійскай фрэскі...***

Адкуль гэта ў 16-гадовай школьніцы? Ад Бога? .. Ад продкаў?.. Вершы Валерыі Кустаўай не патрабуюць каментару, а толькі наводзяць на роздум, што мова, памяць – гэта з'ява генетычная. І іх трэба толькі абудзіць у сабе кожнаму беларусу.

Але і гэта не адкрыццё. Янка Купала такую думку выказаў свайму шматмільённаму народу яшчэ ў пачатку XX стагоддзя.

У 1908 годзе ў вершы "Беларушчына" пясняр напісаў прарочыя радкі:

***Як жыла і жывеш,***
***будзеш жыць, Беларушчына:***
***Зразумеў і ўспомніў цябе***
***твой мільённы народ.***

Да гэтых слоў толькі трэба дадаць, што Беларушчынай сёння заклапочаны і нашыя суайчыннікі ва ўсім свеце.

***Алена Бурбоўская,***
***вучоны сакратар***
***Дзяржаўнага літаратурнага***
***музея Янкі Купалы.***

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*На карце 1770 года на паўночны ўсход ад **Нясвіжа** суцэльная белая пляма. Няма ні адной вёскі, ні адной вартай увагі пабудовы аж да **Кунасы**.*

*На турыстычнай карце Наваградскага ваяводства 1931 года ў гэты бок не вядзе нават дарога.*

*На карце Нясвіжскага раёна ў кнізе пад назвай "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кніга 2" у гэтым месцы пазначана вёска **Сейлавічы**. Але вакол ізноў белая пляма. Ні аднаго помніка гісторыі, культуры, прыроды, ні адной важнай падзеі тут не адбылося і ні адзін вядомы чалавек не нарадзіўся.*

*А людзі ж жылі тут не адно стагоддзе, а можа і тысячагоддзе. І не можа таго быць, каб дзесяткі пакаленняў не пакінулі пасля сябе ніякага следу.*

*Я, Суднік Станіслаў Вацлававіч, які нарадзіўся ў Сейлавічах і вырас у Сейлавічах вырашыў паспрабаваць хаця б крэскамі адзначыць некаторыя фрагменты гісторыі і этнаграфіі нашага краю і выказаць спадзяванні, што з часам знойдуцца больш дасведчаныя людзі якія абвядуць гэтыя крэскі дакладнымі і выразнымі лініямі, а магчыма і размалююць размаітымі колерамі цікавую і прыгожую карціну з назвай "Сейлавічы".*

### Дарога на Сейлавічы

Сейлавічы размешчаны строга на паўночны ўсход ад Нясвіжа, строга праз 10 кіламетраў. З Нясвіжа сюды вядзе адна дарога без усякіх скрыжаванняў, хаця дарога далёка не простая, а бяжыць уздоўж лесу, паўтараючы яго абрысы. Лес гэты невялікі, цягнецца ўсяго кіламетраў на 20 у даўжыню, а ў шырыню каля **Вінклераўшчыны** не больш аднаго кіламетра, у іншых месцах 3-5 км. Лес называецца **Госцібна** (прынамсі так ён называецца ў Сейлавічах). На польскай карце 1929 года гэты лес мае назву **Hoscimne,** але гэтага вымаўлення тутэйшыя людзі не ведаюць. Ведаюць **Госцібна**.

Дарога з Нясвіжа да Сейлавіч ідзе міма **Пагулянкі**. Не так даўно тут была цагельня, потым рабілі шыфер. У памяць пра тую цагельню зараз тут стаіць шыльда з назвай населенага пункта **"Цагельны"**, хаця сапраўдная назва **"Пагулянка"**. Далей дарога ўздоўж лесу дабягае да **Ганусаўшчыны**. Трохі не даязджаючы да вёскі злева ў лесе ёсць даволі вялікая дубрава. У самы разгар пабудовы сацыялізму пры Хрушчове з яго кукурузай, калі душыліся ў чэргах па хлеб, каб атрымаць па дзве булкі на рукі, мы ездзілі ў гэтую дубраву збіраць жалуды. Не, жалудоў не елі. Жалуды падсушвалі, малолі і кармілі свіней, Свіні елі вельмі ахвотна. Гэтая завядзёнка збіраць жалуды цягнулася некалькі гадоў. Потым мусіць палягчала з мукой ці наступілі неўраджайныя гады на жалуды, і ездзіць перасталі.

Уздоўж дарогі стаялі вельмі старыя трухлявыя бярозы. Іх чамусьці называлі **Кацярынінскімі**. Хаця ніякая Кацярына сюды ніколі не прыязджала. Назва можа толькі абазначаць час пасадкі гэтых бярозаў. Пры Кацярыне мы жылі не доўга гадоў пяць. Таму бярозы былі пасаджаны недзе паміж 1795 і 1800 гадамі. Зараз іх ужо ніводнай няма.

**Ганусаўшчына** – колішні двор, а зараз вёска, стаіць на паўдарозе ад Нясвіжа да Сейлавіч. Неўзабаве за Ганусаўшчынай пачынаюцца сейлавіцкія землі. Недзе за кіламетар ад Сейлавіч узлесак Госцібна адварочвае ўлева, а дарога ўправа. У гэтым месцы яшчэ не так даўно, мо гадоў з 20 таму назад быў глыбокі **кар'ер**, з якога бралі пясок. Потым гэты кар'ерзараўнялі і стала поле.

Сейлавічы прымаюць нясвіжскую дарогу ў шырокія абдымкі. Ад скрыжавання на пачатку вёскі дарога разбягаецца адразу ажно ў чатыры бакі: цэнтральная вуліца, два пасёлкі, пад амбар і далей на Вінклераўшчыну.

На ўездзе стаіць шыльда **"СЕЙЛАВІЧЫ"**, строга на беларускай мове. Адзін раз нехта ўмудрыўся павесіць на расейскай, то вісела колькі месяцаў, пакуль людзі не папрасілі калгаснае кіраўніцтва паспрыяць яе замене на беларускую. Шыльда павінна абазначаць, што населены пункт, за ёю называецца вёска Сейлавічы. Як вёска, Сейлавічы залічаны і ўва ўсе адміністрацыйныя дакументы, хаця на самай справе Сейлавічы не зусім вёска і далёка не вёска.



Уезд у Сейлавічы з нясвіжскага боку. Лета 2001 г.

### Тапаніміка сейлавіцкіх зямель

Тутэйшае насельніцтва традыцыйна называе Сейлавічы сялом. А ўжо сяло Сейлавічы дзеліцца на ўласна Вёску (або Рускую Вёску), Засценак і пасёлкі. Пасёлкі маюць жартоўныя назвы, але я іх прыводзіць не буду, бо гэтыя назвы не ўстойлівыя і ўжываюцца сяды-тады дзеля смеху.

Даўней Сейлавічы існавалі, як некалькі населеных пунктаў. На карце 1929 года нанесены **засценак Сейлавічы** (121 хата), **вёска Сейлавічы** (114 хатаў), **засценак Ліпніцкія** (17 хатаў), **лясніцтва Вінклераўшчына** (6 хатаў) і **некалькі масіваў хутароў з назвай Сейлавічы**

На савецкіх вайсковых картах 50-х гадоў, з якімі мне даводзілася працаваць, былі таксама нанесены асобна вёска Сейлавічы, засценак Сейлавічы, хутары Сейлавічы, Ліпніцкія і Вінклераўшчына.

Вёска Сейлавічы ў асноўным праваслаўная, засценак Сейлавічы ў асноўным каталіцкі, хутары былі ўсялякія, пасёлкі мешаныя, але па-большасці праваслаўныя.

Старажытная мяжа паміж засценкам і вёскай праходзіла па нізіне, ад якой зараз засталася канава і дзе стаіць аўтобусны прыпынак ***(каля Ярмака)***. На працягу 20-га стагоддзя гэтая мяжа значна размылася.

Сейлавічы стаяць у чыстым полі, даволі далёка ад лесу (км 3), на перасечанай мясцовасці. Раней тут прыдатныя да жыцця пагоркі чаргаваліся з балотамі. Зараз пасля меліярацыі ўзвышшы чаргуюцца з нізінамі. Але і тыя, і тыя сёння – гэта сельскагаспадарчыя палеткі.

Кожная частка сейлавіцкіх зямель, неяк аддзеленая ад іншых, мела сваю назву. Гэтыя назвы пасля перайшлі на назву хутароў, а магчыма, назва якога хутара дала назву мясцовасці.

Сейлавічы размешчаны на ўскрайку Капыльскай грады, таму тут даволі рэзка чаргуюцца ўзвышшы і нізіны. Усе нізіны вакол Сейлавіч належаць да басейнаў дзвюх рэчак **Тур'і** і **Кунаскай рэчкі** (якой і назвы тут амаль ніхто не ведае, ніжэй па цячэнні гэтую рэчку называюць **Гавязнянкай**). Асноўныя землі – у басейне Тур'і.



**Тур'я каля Сейлавіч. Вясна 2001 г.**

Абедзве гэтыя рэчкі ўпадаюць у **Нёман**. Тур'я бярэ свой пачатак у **Вомшары і Алешніку**. **Вомшар** — гэта вялікі балотны масіў, які размешчаны на поўдзень ад Сейлавіч, кіламетры за два і цягнецца пад **Юшавічы** і далей. Большасць Вомшару лічылася сейлавіцкай зямлёй.

Тур'я падбягае да Сейлавіч з поўдня, цячэ ўздоўж вёскі на ўсход.

У энцыклапедыі пад назвай "Блакітная кніга Беларусі" пералічана аж сем рэчак з назвай Тур'я. Пра нашу Тур'ю сказана так: *"Тур'я, рака ў Капыльскім і Уздзенскім р-нах, левы прыток Нёмана. Даўжыня 35 км. Пл. водазабору 208 кв. км. Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,1 куб. м/с. Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9%.*

*Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад **в. Рымашы** Капыльскага раёна, працякае па паўночнай ускраіне Капыльскай грады, упадае ў Нёман на У. ад в. Касцяшы Уздзенскага р-на..."*

Мякка кажучы энцыклапедыя не зусім дакладная. На самай справе Тур'я пачынаецца двума прытокамі: адзін у Вомшары сапраўды ў баку Рымашоў, а другі у Алешніку аж каля **Бажантарні.** Прытокі зліваюцца паміж **Кулiком і Ліпніцкімі.**

Праз пяць кіламетраў ад Сейлавіч на другім (правым) беразе Тур'і размешчана вёска **Затур'я.** Гэта таксама Нясвіжскі раён. І да мяжы раёна яшчэ некалькі кіламетраў. Таму атрымоўваецца, што з тых указаных у энцыклапедыі 35 км каля 15 км Тур'я цячэ па Нясвіжскім раёне, а не толькі па Капыльскім і Уздзенскім.

На поўдзень ад Сейлавіч каля самай вёскі (метраў 100-200) знайходзілася балота з басейна гэтай самай Тур'і. Балота не мела ўласнай назвы, бо было невялікае. Яго называлі то **"Поплавам"** то **"Аселіцай"**.

За балотам размяшчаецца ўзвышша, якое мае назву **"Касцянева"**. У свой час, да 1960 г. там стаяла да 10 хутароў. Усе разам яны таксама насілі назву **"Касцянева"**. Праехаць з Сейлавіч на Касцянева можна было цераз **"Граду"**. Прайсці зімой і летам можна было і цераз балота. Восенню і вясной – цераз "Граду". На гэтым Касцяневе я і нарадзіўся.

На ўсход ад Касцянева за рэчкай пачыналася другое ўзвышша і другая група хутароў **"Кулік"**. Перабрацца з Касцянева ў Кулік можна было толькі цераз **"Брод"**, які іншай назвы не меў. З Сейлавіч ў Кулік можна было праехаць толькі па **"Грэблі"**, якая і за маёй памяццю не раз размывалася і станавілася непраходнай, у выніку чаго Кулік заставаўся адрэзаным ад усяго свету. Кулік быў вялікім хутарным комплексам. На вайскавой карце менавіта на месцы Куліка напісана: **"Хутары Сейлавічы"**. Кулік цягнуўся аж да Вомшара. Паводле мясцовых паданняў, менавіта тут жыў прататып Сымона-музыкі з аднайменнай паэмы Якуба Коласа. Быццам бы Колас сам гаварыў, што Сымон-музыка жыў на хутары паміж Сейлавічамі і Юшавічамі, а гэта і ёсць Кулік.

Паходжанне назвы ***Кулік*** лягчэй за ўсё вывесці ад балотнай птушкі куліка. Бо гэтае ўзвышша і стаіць, як кулік паміж балотамі. Разам з тым ніжэй па цячэнні Тур'і ёсць месца **Куль,** а яшчэ ніжэй ужо на Нёмане ёсць вёска **Куль**. Назва **"куль"** на рэчцы абазначае месца, дзе некалькі прытокаў збягаюцца ў адзін і далей бягуць адным руслам. На самай справе гэта нагадвае жытні куль перавязаны перавяслам. І наш Кулік можна трактаваць, як **малы Куль**, таму што каля Куліка збягаліся ў адно русла акрамя двух асноўных яшчэ да дзесятка дробных прытокаў Тур'і.

Што тычыцца самога Коласа, то ён мог часцяком бываць у Сейлавічах, бо, менавіта цераз Сейлавічы прайходзіць адна з дарог з **Мікалаеўшчыны** ў Нясвіж, дзе Канстанцін Міцкевіч вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. Дарога ішла ад Мікалаеўшчыны цераз **Пагарэлае**, Кунасу, **Андрушы**, Сейлавічы і на Нясвіж. Больш кароткая дарога прайходзіла ад Пагарэлага на Госцібна, але там яна ішла кіламетраў 15 па лесе. У лесе дарога называлася **Вялікай дарогай** . Вялікая дарога — гэта частка старажытнага тракту, паказанага на карце 1770-га года, які быццам бы прайходзіў з Міра цераз Кунасу міма Стоўбцаў і Мікалаеўшчыны ў бок Койданава (Дзяржынск). Вялікая дорога з пад **Жыгалак** выходзіла пад Вінклераўшчыну. Будучы добра смелым летам можна было ісці і гэтай кароткай дарогай. Праўда мікалаеўцы часцей за ўсё ехалі ці ішлі на Нясвіж цераз **Гавязну** (цяперашні **Вішнявец**). Тая дарога была хоць крыху даўжэйшай але больш бойкай. А самі Сейлавічы для мікалаеўцаў былі добра вядомыя. Сюды выходзілі замуж дзяўчаты, да сейлавіцкай шляхты наймаліся мікалаеўскія пастушкі, пра што мне распавядаў сп. Сымон Белы з Радашковічаў, сённяшні біёграф Коласа, а колішні пастушок у Сейлавічах.

Назва **"Касцянева"** не адзінкавая назва і малаверагодна, што пайходзіць ад імя нейкага Косці. У Шчучынскім раёне ёсць вёска Касцянева. Мы ўсе са школы памятаем назву вёскі Касцянёўка ў аповесці Пушкіна Дуброўскі. Але там таксама не падаецца паходжанне назвы. Кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін сцвярджае, што традыцыйна назву "Касцянева", ці падобную атрымоўвалі месцы, у якіх людзі знайходзілі косці, многа касцей.

Заслону перад назвай сейлавіцкага Касцянева можа прыадчыніць яшчэ адно тутэйшае паданне. Тут часта згадваюць недзе вычытанае ці чутае, што ў 10 кіламетрах на ўсход ад Нясвіжа на беразе вялікага возера адбылася бітва рускіх войскаў з напалеонаўскімі. За возера зусім магло сысці балота. Сведчаннем бітвы з'яўляюцца магілы напалеонаўскіх жаўнераў на сейлавіцкіх могілках, якія вядомыя і бачныя да сёння. Касцянева — такі мяшок, што калі туды забрыў вайсковы аддзел, то без бітвы выбрацца немагчыма. Таму зусім верагодна, што менавіта на Касцяневе французы і разбілі рускіх. Сваіх пахавалі на могілках, а рускіх добра калі папрысыпалі на месцы. Тутэйшае насельніцтва падтрымлівала французаў. Радзівіл даў у дапамогу Напалеону два палкі, у якіх былі і сейлаўцы.

Косці рускіх салдатаў потым доўга выворваліся з зямлі на полі бою. І месца атрымала назву **"Касцянева"**.

Магло быць і не так, але іншых сведчанняў пакуль проста няма.

*(Працяг у наст. нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

